ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Жнівень, 2015

## Як весці бізнес на беларускай мове,
### навучаць на курсах Асацыяцыі Еўрапейскага Бізнесу




**А таксама ў нумары:**

Нямецкі студэнт вывучыў беларускую мову, каб лепей разумець Статут ВКЛ

У Гародні жанчына адмовілася ад пашпарта з-за расейскамоўных штампаў

Айчынны спорт – па-беларуску

28-гадовы салігорац патрабуе беларускай мовы ад ДАІ



# Як весці бізнес на беларускай мове, навучаць на курсах Асацыяцыі Еўрапейскага Бізнесу

***Асацыяцыя Еўрапейскага Бізнесу аб'яўляе набор слухачоў на курсы спраўнай беларускай мовы. Цяпер у новым фармаце: за кубачкам духмянай кавы ва ўтульнай кавярні Café del Parco. Пачатак заняткаў — верасень 2015 года.***

Курсы бізнес-беларускай даюць магчымасць прадстаўнікам камерцыйных кампаній і ўсім зацікаўленым развіць здольнасці вуснай і пісьмовай бізнес-камунікацыі для прафесійнага стасавання, абслугоўвання, рэкламавання, выступаў, справаводства і штодзённай працы на беларускай мове.

Курс улучае 12 практычных заняткаў, якія даюць падмурак выкарыстанню мовы на ўсіх роўнях: прыём на працу, дакументацыя, фінансы і ўлік, вытворчасць, рэклама і прасоўванне на рынку, кіраванне праектамі, тэхніка, тэхналогіі, лагістыка, апрацоўка, угоды, арганізацыя, права, стасаванне з дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі, электронны бізнес і г.д.

Каму патрэбны курсы?

Адмыслоўцам і кіраўнікам усіх роўняў. Тым, хто кіруе людзьмі, вядзе перамовы, складае адказныя дакументы, прадае, распавядае пра вырабы і паслугі, праводзіць сумоўі, піша справаздачы, рэклямуе, абслугоўвае пакупнікоў, тэлефануе і лістуе наконт гаспадарскіх пытанняў і г.д.

Што Вы атрымаеце?

Вы можаце чакаць паляпшэння ў тым, як Вы:

гаворыце ўпэўнена;

гаворыце дакладна, правільна і хутка;

дасягаеце мэтаў у размовах;

стасуецеся пісьмова, у тым ліку электроннай поштай;

апісваеце складаныя паняткі і новыя тэхналогіі;

правільна называеце прадметы вузкага прафэсійнага ўжытку;

пашыраеце спраўны слоўнікавы запас самастойна;

перакладаеце на беларускую з іншых моваў – вусна або пісьмова;

разумееце практычныя адметнасці беларускае мовы;

лёгка і больш упэўнена сябруеце з людзьмі;

паспяхова працуеце ў шматмоўным асяроддзі.

Які змест заняткаў?

Асноўныя пытанні, якія будуць закранацца:

Моўны выбар і як ён уплывае на справы. Свядомае і падсвядомае ўспрыманне мовы, уздзеянне мовы на таго, хто гаворыць і хто слухае, адметнасці беларускае мовы, колькасныя паказчыкі ўплыву моўнага выбару на справы, стасаванне ў шматмоўным асяроддзі, стратэгіі моўнага выбару і г.д.

Гаспадарка. Працаўнікі, вытворчасць, кіраванне праектамі, тэхніка, тэхналогіі, лагістыка, апрацоўка, угоды, фінансы, бухгальтэрыя, арганізацыя, права, справаводства, стасаванне з дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі, электронны бізнес і г.д.

Публічнае. Прасоўванне вырабаў і паслуг, рэклама, прэзэнтацыі, выступы перад сходамі, сацыяльныя сеткі, меркаванні, рацыянальныя і эмацыйныя артыкулы ў мэдыях, прапановы, тлумачэнне новага і складанага, апісанне стану і напрамкаў развіцця і г.д.

Асабістае. Камунікацыйныя стратэгіі, адмысловыя гутаркі, тэлефанаванне, афіцыйныя і электронныя лісты, запыты, структураванне, кароткасць і яснасць, высновы, абслугоўванне пакупнікоў, перамовы, перакананне, абарона і г.д.

Практыкаванні. Пераклад на беларускую мову, рэзюмэ, розныя правапісы, афіцыйны стыль, лексічныя, граматычныя, сінтаксічныя, арфаграфічныя складанасці, спраўнае асяроддзе, узбагачэнне слоўнікавага запасу, звышскладаныя сытуацыі, прыгажосць мовы, вузкая тэрміналогія і г.д.

Апроч гэтага, Вы навучыцеся больш упэўнена і паспяхова гаварыць, палепшыце валоданне мовай, зможаце развіваць свае камунікацыйныя здольнасці ў будучыні, самастойна развязваць новыя складаныя пытанні.

Звыш таго, удзел у занятках прымуць дасведчаныя бізнесоўцы, якія падзеляцца сваімі спосабамі вядзення спраў, прасоўвання бізнесу і выкарыстання беларускай адметнасці на рынку. Прыклады такіх заняткаў можна знайсці на сайце Асацыяцыі Еўрапейскага Бізнесу.

Выкладчык курсаў — Аляксей Нарэйка, дырэктар беларускамоўнай кампаніі "Праўны пераклад", даследнік у галіне псіхалінгвістыкі і сацыялінгвістыкі, распрацоўнік слоўнікаў. Мае ступень магістра гуманітарных навук БДУ, навучаўся ў Швецыі і Нідэрландах.

Па выніках слухачы атрымаюць пасведчанні пра заканчэнне курса спраўнай беларускай мовы.

Заняткі будуць праходзіць раз на тыдзень ва ўтульным асяроддзі за кубачкам кавы ў кавярні Café del Parco па адрасе вул. Рэвалюцыйная, 28 (праблем з паркоўкай аўто ўвечары няма).

Будуць набраныя два гурты (10-15 чалавек кожны). Першыя заняткі гуртоў пройдуць 7 верасня (панядзелак) і 10 верасня (чацвер) 2015 года ад 18.30 да 20.00.

Курсы платныя — 1 850 000 беларускіх рублёў (кубачак кавы альбо гарбаты на кожным занятку ўключаны ў гэты кошт).

Залічэнне адбываецца ў парадку падачы заяў, і мы не гарантуем, што месцаў хопіць усім. Таму спяшайцеся звярнуцца першымі! Асноўны набор адбудзеццада 31 жніўня 2015 года. Дадатковы набор (калі застануцца вольныя месцы) адбудзецца ў часе ад 29 жніўня да 15 верасня 2015 году.

Каб запісацца на заняткі і аплаціць, лістуйце або тэлефануйце Кацярыне Сыраежкінай: электронная скрынка katsiaryna.syrayezhkina@aebbel.by, тэлефон +375 29 167 99 48 (для запісу трэба паведаміць прозвішча, імя, імя па бацьку, пашпартныя дадзеныя і адрас рэгістрацыі).

*generation.by*

# Нямецкі студэнт вывучыў беларускую мову, каб лепей разумець Статут ВКЛ

***Нямецкі студэнт Рубэн Більвард першы раз наведаў у Беларусь у 2012 годзе. А ужо з верасня 2014 вярнуўся вывучаць беларускую мову на філалагічным факультэце БДУ. Прычына для вывучэння беларускай мовы была незвычайнай – жаданне лепей разумець Статут Вялікага Княства Літоўскага. У чэрвені гэтага году Рубэн развітаўся з Беларуссю і працягне навучанне ў Дрэздэне ў магістратуры.***

Generation.by распытаў Рубэна Більварда пра асаблівасці яго досведу ў межах серыі гісторый беларускамоўных замежнікаў «Размаўляй са мной па-беларуску».

Пачаў вучыць беларускую, каб лепш разумець Статут і іншыя прававыя тэксты ВКЛ на старабеларускай мове

Мая матывацыя да вывучэння беларускай мовы – інтарэс у гісторыі. Калі я пісаў бакалаўрскую работу на тэму Магдэбургскага права на беларускіх землях у час ВКЛ і Рэчы Паспалітай, я займаўся Статутам ВКЛ і прававымі тэкстамі ВКЛ, напісанымі на старабеларускай мове. Каб лепш разумець гэтыя тэксты, я вывучаю беларускую.

*Практыка*

Працэс вывучэння мовы ў асноўным у Беларусі – практыка. У мяне ёсць сябры, якія размаўляюць толькі па-беларуску, з імі я часта практыкаваў беларускую мову. Зараз у Нямеччыне я чытаю тэксты ў інтэрнэце і слухаю беларускую музыку, каб не забыцца пра яе.

Мне беларуская мова адразу спадабалася, хаця на ёй мала людзей размаўляе

Я ўжо часта бываў у Беларусі. Першы раз у 2012 годзе, калі мы з сяброўкай і аднакурсніцай ездзілі ў Брэст, каб пазнаёміцца з Беларуссю. Потым я праходзіў практыку ў Брэсцкай крэпасці ў 2013 годзе і нарэшце я зноў прыехаў адмыслова, каб вывучаць беларускую мову. Мне беларуская мова адразу спадабалася, хаця на ёй мала людзей размаўляе. Сітуацыя ў Беларусі, канешне, складаная. Але я хачу дапамагчы палепшыць яе.

*Калі б я быў беларусам, я бы толькі з людзьмі з Расіі размаўляў на рускай*

Калі б я быў беларусам, я гаварыў бы ўвесь час на беларускай мове. Толькі з людзьмі з Расіі я бы размаўляў і на рускай. Я пагаджаюся, што беларуская мова падобная на рускую, але больш падобная за чэшскую, якую я таксама вывучаю, але яны не аднолькавыя. Я таксама лічу, што беларуская – «мілагучная» мова. Фанетыка вельмі зручная, як і лексіка для немцаў, бо шмат нямецкіх слоў у беларускай мове.

*Беларуская мова – мова-партызан*

Беларуская мова – бедная мова. Бедная ў тым, што мала людзей ёй карыстаюцца. Яна як кветка, якую выкідаюць, таму што яна не выглядае вартай для захавання, бо ў яе ёсць моцны канкурэнт – руская мова. Але яна таксама партызан. На ёй мала гавораць, але яна ёсць, яна існуе.

*Хачу публікавацца на ёй*

Пакуль што я выкарыстоўваю беларускую мову проста ў размовах з сябрамі і часам у ЛГБТ-групе МЭЙК-АЎТ, але я вельмі хачу публікавацца на ёй. Для гэтага трэба вывучыць яе лепш.

*Парада замежнікам, што таксама вучаць беларускую*

Замежнікам у мяне адна парада: чытайце вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Яны класныя паэты. А калі моўнага ўзроўню яшчэ не хапае на паэзію, то чытайце дзіцячую літаратуру. Я зараз чытаю Рабінзона Круза )

*generation.by*

# У Гародні жанчына адмовілася ад пашпарта з-за расейскамоўных штампаў

***Гарадзенцы звяртаюцца ў Міністэрства ўнутраных спраў і Дэпартамент па грамадзянству і міграцыі з патрабаваннем вярнуць беларускамоўныя штампы ў пашпартах грамадзян Рэспублікі Беларусь.***

Апошнім часам службы, якія ў Гародні займаюцца афармленнем пашпартоў, пачалі выкарыстоўваць расейскамоўныя штампы аб прапісцы, рэгістрацыі шлюбаў і наяўнасці дзяцей замест беларускамоўных, што для многіх жыхароў горада з'яўляецца асабістай абразай.

– Я зараз мяняю пашпарт і вельмі здзівілася, пабачыўшы, што там стаяць расейскамоўныя штампы. Я адмовілася ад пашпарта. Што гэта такое! Я хачу, каб стаяў той самы беларускамоўны штамп. Беларуская мова для мяне мова асноўная. Я тут жыву, я павінна паважаць, я павінна яе ведаць. І тыя, хто прыязджаюць сюды жыць, таксама павінны ведаць, разумець і паважаць краіну.

Ва ўпраўленні па грамадзянству і міграцыі Гарадзенскай вобласці патлумачылі, што расейскамоўныя штампы былі ўведзеныя замест беларускамоўных яшчэ некалькі гадоў таму. Афіцыйнага дакументу аб замене беларускай мовы на расейскую з Міністэрства ўнутраных спраў не паступала.

*Беларускае Радыё Рацыя*

# Айчынны спорт – па-беларуску

***Каардынатар грамадскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак не стамляецца папулярызаваць беларускую мову ў айчынным спорце. Напачатку футбольнага сезону адпаведныя лісты ён даслаў у футбольныя клубы вышэйшай лігі. А гэтымі днямі падобныя лісты былі накіраваныя ў клубы першай і другой лігі.***

– Спадзяюся, што ў гэтым годзе адказаў будзе больш. Хочацца спадзявацца, што іншыя каманды таксама паглядзяць на добрыя прыклады тых клубаў, якія ўжо выкарыстоўваюць беларускую мову, як тое ж “Дынама-Мінск”, футбольны клуб “Гомель”, бабруйская “Белшына”, хакейны клуб “Дынама-Мінск”.

Хочацца, каб клубаў, якія выкарыстоўваюць беларускую мову, стала нашмат болей. “Бачу, што гэтая справа не марная, – кажа Ігар Случак, – з кожным годам усё больш футбольных клубаў становіцца адказваюць на мае прапановы, і беларуская мова шырэй пачынае ужывацца ў спартовым жыцці краіны”.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*

# 28-гадовы салігорац патрабуе беларускай мовы ад ДАІ

***Салігорскія ДАІшнікі не змаглі напісаць пратакол па-беларуску***

У пракуратуру Салігорскага раёну 28-гадовы Аляксандар накіраваў скаргу на дзеяньні мясцовых супрацоўнікаў ДАІ, якія, прад’яўляючы яму абвінавачаньні ў дробным правапарушэньні, адмовіліся размаўляць на беларускай мове і ня здолелі скласьці пратакол па-беларуску.

«У мяне на лабавым шкле прымацаваныя бел-чырвона-белы і ўкраінскі сьцягі, але фармальнай падставай для складаньня пратаколу сталі шторкі на вокнах аўтамабіля. Калі супрацоўнікі ДАІ спынілі мяне, я адразу папярэдзіў, што буду зьвяртацца да іх на беларускай мове і патрабую таго самага ў дачыненьні да сябе, як гэта прадугледжваецца моўным заканадаўствам. Але па-беларуску гаварыў толькі я, а яны — па-расейску. У выніку пратакол за шторкі таксама быў складзены па-расейску і на расейскамоўным бланку», — распавёў Аляксандар Малочка Радыё Свабода.

У скарзе на імя пракурора раёну адзначаецца, што склад правапарушэньня Аляксандрам Малочкам не аспрэчваецца, але яго просьба аб запаўненьні пратакола на беларускай мове супрацоўнікамі ДАІ Сінельнікавым і Вялічкам была праігнараваная. Супрацоўнікі ДАІ не забясьпечылі грамадзяніну паслугі перакладчыка, як таго патрабуе заканадаўства.

Ад салігорскай пракуратуры Аляксандар Малочка патрабуе належнай ацэнкі дзейнасьці супрацоўнікаў дзяржаўтаінспэкцыі.

«Паводле закону „Аб дзяржаўнай службе“ права займаць дзяржаўныя пасады ў Рэспубліцы Беларусь маюць толькі асобы, якія валодаюць абедзьвюма дзяржаўнымі мовамі. Атрымліваецца, што супрацоўнікі ДАІ, якія спынілі мяне, не адпавядаюць фармальным крытэрам для сваіх пасадаў», — кажа Аляксандар.

Аляксандар Малочка кажа, што напісаў заяву ў пракуратуру «зь цікавасьці», каб паглядзець на рэакцыю чыноўнікаў:

«Насамрэч, я не перакананы, што, напрыклад, беларускамоўная ДАІ патрэбная беларускаму народу. Пасьля камунікацыі з супрацоўнікамі Міністэрства ўнутраных спраў я зразумеў, што яны ўвогуле не разумеюць, у чым сэнс маіх прэтэнзіяў. Яны завучана паўтараюць, што ў краіне дзьвюхмоўе, таму расейская мова ня можа быць праблемай».

*svaboda.org*

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя “Справаводства па-Беларуску”

Надрукавана на Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html

**Архіў УКантакце:**
http://vk.com/docs?oid=-19441275

*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

M&S MEDIA